Праваабарончы
# Веснік

*студзень 2014*

**Магілёўскі праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь**

## МІКАЛАЙ СТАТКЕВІЧ: 1000 ДЗЁН ЗА КРАТАМІ



Былы кандыдат у прэзідэнты правёў за кратамі больш за 1000 дзён.

Мікалай Статкевіч быў узяты пад варту 20.12.2010 г. З 19.12.2010 г. па 12.01.2011 г. праводзіў галадоўку пратэсту Ў СІЗА КДБ, дзе да яго ўжывалі фізічнае і псіхалагічнае ўздзеянне, абмяжоўвалі доступ адваката.

Асуджаны 26.05.2011 судом Партызанскага раёну г. Менска па ч. 1 арт. 293 КК (арганізацыя масавых беспарадкаў) да 6 гадоў пазбаўлення волі ўва ўмовах узмоцненага рэжыму.

Спачатку адбываў тэрмін пакарання ў Шклове, дзе за 2010-2011 годы 11 разоў атрымоўваў спагнанні за «парушэнні рэжыму адбыцця пакарання», ўтрымліваўся ў ШІЗА і «памяшканні крытага тыпу».

12.01.2012 г. на закрытым пасяджэнні Шклоўскі суд змяніў рэжым адбыцця пакарання на больш жорсткі - тры гады турэмнага зняволення па прычыне «злоснага парушэння рэжыму».

За 2012-2013 г.г., падчас знаходжання ў турме №4 Магілёва, на Статкевіча некалькі разоў накладаліся дысцыплінарныя спагнанні. Падчас усяго зняволення на Мікалая Статкевіча аказваўся ціск з патрабаваннем падпісаць прашэнне аб памілаванні, і з гэтай мэтай з боку адміністрацыі арганізоўваліся розныя правакацыі, ў тым ліку пры выбары катэгорый яго сукамернікаў.

На дадзены момант па ўмовах утрымання Статкевічу дазволена: 2 кароткіх спаткання ў год, адна харчовая перадача, дзве бандеролі, 1,5 гадзіны прагулкі ў дзень і 2 базавыя велічыні на набыццё неабходных рэчаў у месяц.

12 жніўня 2013 года Мікалаю Статкевічу было даслана больш 900 лістоў і паштовак з віншаваннямі з нагоды дня нараджэння. Але адміністрацыя турмы №4 Магілёва адмовілася перадаць яму гэтыя лісты і віншаванні.

## ЯЎГЕН ВАСЬКОВІЧ: 247 СУТАК У ШІЗА



Моладзевы актывіст, асуджаны на 7 гадоў зняволення за спробу падпалу дзвярэй бабруйскага КДБ, больш паловы часу знаходжання за кратамі правёў у штрафным ізалятары (ШІЗА): 247 сутак. Новы год ён таксама сустрэў у ШІЗА магілёўскай турмы №4. Штомесяц палітвязень праводзіць у ізалятары да 20 дзён. Пры росце 186 сантыметраў важыць Яўген Васьковіч толькі 65 кілаграмаў.

Пакаранне штрафным ізалятарам ва ўмовах турэмнай установы выкарыстоўваецца адміністрацыяй або дзеля таго, каб спыніць кантакты вязня з вонкавым светам, або каб прычыніць яму дадатковыя нягоды.

Як адзначыў намеснік старшыні Праваабарончага цэнтра «Вясна» Валянцін Стэфановіч, адміністрацыі турмаў і калоніяў часта спецыяльна аддаюць распараджэнні, загадзя ведаючы, што вязень не будзе іх выконваць. Такім чынам, пры пэўнай патрэбе чалавека могуць «падвесці» пад артыкул 411 Крымінальнага кодэкса Беларусі (сістэматычнае невыкананне патрабаванняў адміністрацыі пенітэнцыярных установаў), што можа пацягнуць за сабою судовае разбіральніцтва, а вязень — атрымаць дадатковы тэрмін пазбаўлення волі. Валянцін Стэфановіч нагадаў, што такім чынам улады абышліся з лідарам «Маладога фронту» Змітром Дашкевічам.

Яўген Васьковіч, Арцём Пракапенка і Павел Сырамалотаў былі асуджаныя за спробу падпалу ў ноч на 17.10.2010 года будынку мясцовага КДБ у Бабруйску. Ім інкрымінавалі парушэнне ч. 2 артыкула 339 (злоснае хуліганства) і ч. 3 артыкула 218 (наўмыснае пашкоджанне маёмасці ў асабліва буйным памеры) Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь. Вырак — па сем гадоў пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму. Усе яны прызнаныя палітычнымі зняволенымі.

# У МАГІЛЁВЕ Ў СКЛАД АКРУГОВЫХ ВЫБАРЧЫХ КАМІСІЙ НЕ ПАТРАПІЎ НІ АДЗІН ДЭМАКРАТ

Вылучалі ў склад акруговы камісій сваіх прадстаўнікоў толькі актывісты Аб'яднанай грамадзянскай партыі.

Вось што распавёў старшыня Магілёўскай абласной арганізацыі АГП Уладзімір Шанцаў:

«Вылучалі ў акруговыя камісіі шэсць чалавек. Нікога не ўключылі. Аргументаваць, чаго нашы актывісты не прайшлі ў камісіі, ніхто не стаў. Проста не прайшлі і ўсё».

Шанцаў адзначае, што абскарджваць неўваходжанне сваіх актывістаў у склад акруговых выбарчых камісій, а таксама судзіцца з гэтай нагоды не збіраецца – не бачыць у гэтым ніякага сэнсу.

Раней ніводзін дэмакрат не патрапіў у камісіі больш высокага ўзроўню - тэрытарыяльныя.

Грамадская кампанія «Праваабаронцы за свабодныя выбары», якая вядзе назіранне за ходам выбараў, адзначыла ў сваёй справаздачы:

*«Выбарчае заканадаўства не забяспечвае празрыстасці працэсу фарміравання АВК.*

*Адсутнасць заканадаўча замацаваных крытэрыяў уключэння грамадзян у АВК прыводзіць да фармальнага і адвольнага вызначэння іх складу адпаведнымі органамі, а таксама робіць неэфектыўным абскарджанне ў судзе адмовы ва ўключэнні ў выбарчыя камісіі.*

*Прыняцце рашэнняў аб складзе АВК у пераважнай большасці выпадкаў адбывалася шляхам спісачнага галасавання, без адкрытага абмеркавання вылучаных кандыдатур.*

*Нягледзячы на высокую актыўнасць апазіцыйных палітычных партый па вылучэнні сваіх прадстаўнікоў (185 чалавек ці 36,7% ад усіх вылучэнцаў палітычных партый), у склад АВК з іх увайшло толькі 11 чалавек (5,95% ад вылучаных). Доля прадстаўнікоў апазіцыйных партый у складзе створаных камісій склала 0,25% (ад членаў АВК)*

*Вынікі фарміравання АВК сведчаць аб відавочна дыскрымінацыйных падыходах. Для параўнання: падчас парламенцкіх выбараў 2008 г. у склад АВК было ўключана 32% ад вылучаных апазіцыйнымі партыямі, у 2012 г. –24%».*

# ПІКЕТ СУПРАЦЬ НОВЫХ ПАДАТКАЎ ЗАБАРАНІЛІ ТАМУ ШТО... НЯМА ДВОРНІКАЎ!

У афіцыйным адказе, які атрымаў адзін з заяўнікаў пікета, старшыня Магілёўскай абласной арганізацыі Аб'яднанай грамадзянскай партыі Уладзімір Шанцаў, ад МГКУ дарожна-маставога прадпрыемства, гаворыцца, што на прадпрыемстве недахоп прыбіральшчыкаў тэрыторыі, а дзень меркаванага мерапрыемства прыпадае на выходны.

У сувязі з гэтым Магілёўскі гарвыканкам прыняў рашэнне адмовіць магілёўскім дэмакратам у пікеце.

Сітуацыю каментуе старшыня Магілёўскай абласной арганізацыі БНФ "Адраджэньне" Зміцер Салаўёў:

"Спачатку камунальнікі з намі заключылі дамову на прыбіранне тэрыторыі, аднак потым яны разарвалі гэтую дамову ў аднабаковым парадку. Лічу, што ва ўсім гэтым ёсць палітычны падтэкст, і мясцовыя ўлады не хочуць даваць дазвол на правядзенне масавых мерапрыемстваў нават на ўскрайку горада, у адзіным дазволеным месцы ў горадзе. Відавочна, што тэма ўвядзення новых падаткаў закранае большасць беларусаў і актуальна для іх, таму грамадзяне маглі прыйсці падтрымаць пікет нават на ўскраек горада".



*Дзмітрый Салаўёў*

Нагадаем, што ініцыятарамі пікета супраць увядзення новых падаткаў выступілі старшыня Магілёўскай абласной арганізацыі БНФ "Адраджэньне" Зміцер Салаўёў, старшыня Магілёўскай абласной арганізацыі АГП Уладзімір Шанцаў і намеснік старшыні Свабоднага прафсаюза Беларускага Юрый Новікаў. Мерапрыемства яны планавалі правесці 25 студзеня на пляцоўцы стадыёна "Хімік" на ўскрайку горада.

Трэба адзначыць, што з 1 студзеня 2014 года дзейнічае новы падатак на ўласнікаў аўтамабіляў. Кіраўніцтва краіны неаднаразова выказвалася за тое, каб быў уведзены падатак і на тунеядцаў.

# ЖУРНАЛІСТЫ І ПРАВААБАРОНЦЫ ВЫРАТАВАЛІ БЕЛАРУСА З РАСЕЙСКАГА РАБСТВА

**Жыхар Краснапольскага раёну Аляксандр Шаўцоў вярнуўся на радзіму з нявольніцтва ў Дагестане.**

Маці Аляксандра Шаўцова распавяла журналісту Радыё Свабода, што яе сын паехаў у заработкі летась 1 чэрвеня. Працаваў у Падмаскоўі, у Люберцах. Сувязь з ім была да 15 чэрвеня — ягонага дня народзінаў. Пазней, як даведалася маці, у самой Маскве, куды Аляксандар выбраўся адзначыць з прыяцелямі дзень народзінаў, ён сустрэў незнаёмца, які прапанаваў разам з ім выпіць.

«Калі ён выпіў, то ачуняў толькі ў Махачкале, на цагельным заводзе. Пра гэта мы даведаліся, бо пазваніла нам жанчына з Бабруйску. Яе сын там таксама працаваў. З сынам мы стэлефаноўваліся да 15 ліпеня. Пятнаццатага ён пазваніў і кажа: „Мамка, мне больш не звані. Я з табой сам звяжуся“. І сувязь з ім знікла. І толькі ён мне ўчора пазваніў», — пераказвае гісторыю знікнення сына Лідзія Шаўцова.

З сынавага пераказу маці даведалася, што ён і яшчэ двое ўцяклі з няволі. У Астрахані іх злавілі і вярнулі назад у Дагестан. Там прадалі. Нейкі час Аляксандар у гарах пасвіў авечкі. Потым яго зноў прадалі, і ён зноў уцёк.

«Яго падабрала адна сям’я. Сказаў ён, што яны яго пакуль не выганяюць. Далі прытулак, адзежу. Пазычылі б і грошы — пасадзілі б на аўтобус ці маршрутку. Аднак, як ён кажа, даехаць ён зможа толькі да першага паста, і яго зноў „здымуць“ і аддадуць у рабства, бо за яго заплаціў гаспадар. А калі ён трапіць зноў у няволю, то пэўна не ўратуецца. Дапамажыце, кажа, вярнуцца».

Лідзія Іванаўна, калі не было звестак ад сына, спрабавала яго знайсці праз перадачу «Жди меня» на расейскім тэлебачанні. Аднак пазней, калі Аляксандар абазваўся, ёй сказалі, што перадача ня можа паехаць у Дагестан і забраць яго адтуль. Звярталася маці па дапамогу і ў міліцыю:

«Я заяву пісала, калі яшчэ ня ведала, дзе ён. Значыўся як бяз вестак зніклы. Цяпер месцазнаходжанне ягонае яны ведаюць. Кажуць, што мне трэба пісаць ліст у Міністэрства ўнутраных спраў Дагестану і растлумачыць сітуацыю, як што здарылася, каб тыя дапамаглі яму адтуль выехаць».

Гэта, аднак, магло нашкодзіць ня толькі сыну, але і сям’і, якая яго ратавала.

Пасля таго, як да справы далучыліся беларускія праваабаронцы, Аляксандра Шаўцова ўдалося вярнуць на радзіму: ён вярнуўся ў Беларусь 16 студзеня.

Праваабаронца, які дапамог Шаўцову вярнуцца на радзіму, просіць не называць ягонага імя. У прыватнай гутарцы ён сказаў, што ня можа раскрыць абставінаў гэтай справы, бо яна тычыцца інтарэсаў сям’і былога нявольніка. Актывіст прызнае, што такая пазыцыя адлюстроўвае сённяшняе разуменне беларусамі актуальнасці праблемы «працоўнага рабства», з якім яны сутыкаюцца, выяжджаючы за межы сваёй краіны. Разам з тым, зазначае праваабаронца, яны павінны ведаць, што ў тых мясцінах, дзе яны апынуліся ў бядзе, ёсць такія ж праваабарончыя арганізацыі, як у Беларусі, і журналісты таксама, якія прыйдуць на дапамогу.

# ПОДДЕРЖИТЕ ПОЛИТЗАКЛЮЧЕННЫХ!

Людям, которые лишены свободы за свои убеждения, особенно важна поддержка общества. Найдите несколько минут и напишите письмо политическим заключенным! Возможно, именно ваши слова помогут им выдержать испытание неволей.

**Алесь Беляцкий:**

213807, Могилевская обл., г. Бобруйск, ул. Сикорского, 1, ИК №2, отряд 14

**Николай Статкевич, Евгений Васькович, Николай Дедок:**

212011, г. Могилев, ул. Крупской, 99а, тюрьма №4

**Артем Прокопенко:**

213105 г. Могилев, Славгородское шоссе, 183, ИК №15

**Андрей Гайдуков:**

213030, г. Могилев, Славгородское шоссе, 3-й км, ИК №19

**Николай Автухович:**

230023, г. Гродно, ул. Кирова, 1, тюрьма №1

**Эдуард Лобов:**

225295, Брестская обл., г. Ивацевичи, «Волчьи норы», а/я 20, ИК №22

**Игорь Олиневич:**

211440, Витебская обл., г. Новополоцк, ул. Техническая, 8, ИК №10

**Василий Парфенков:**

213410, Могилёвская обл., г. Горки, вул. Добролюбова, 16, ИК-9

**Владимир Яроменок:**

225413, Брестская обл., г. Барановичи, ул. Брестская, 258, СИЗО №6

## Кто такие политзаключённые?

*СПРАВКА*

**Авторитетная международная организация «Международная амнистия» политзаключённым называет человека, в лишении свободы которого присутствует существенный политический момент.**

**Политизаключенных зачастую осуждают по итогам процессов, сопровождавшихся нарушениями международных норм справедливого судопроизводства. Иногда их годами держат в предварительном заключении без суда и следствия. Amnesty International требует, чтобы все политические заключенные предстали перед справедливым судом в разумные сроки.**

**В отличие от узников совести, среди политзаключённых могут быть и те, кто прибегал к насильственным действиям (в том числе совершая уголовно-наказуемые деяния), либо призывал к насилию или вражде. Однако все обвинения в их адрес либо их часть могут быть и ложными. Amnesty International добивается лишь того, чтобы дела таких людей были рассмотрены в суде в разумные сроки и с соблюдением всех гарантий справедливого суда, как-то: право на адвоката по своему выбору, отказ от рассмотрения показаний, полученных под пытками и так далее.**

**Термин «политзаключенный» не означает, что человек обладает каким-то особым статусом, или что организация придаёт ему какое-то особое значение. Amnesty International не поддерживает и не опровергает взгляды таких людей, а также никак не оценивает необходимость тех или иных боевых действий в ходе политического противостояния или конфликта.**

*У нумары выкарыстаныя матэрыялы газеты «Новы час», Радыё Свабода, ПЦ «Вясна»*

Праваабарончы веснік. Магілёўскі праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь. Распаўсюджваецца бясплатна. Наклад: 299 ас.